## ЖЫЦЬ ПА ПРАЎДЗЕ І СУМЛЕННІ

У леташнім траўні на старонках абласной беларускамоўнай газеты “Народная трыбуна” я прадстаўляў берасцейскаму чытачу зборнік казак Расціслава Бензярука “Зайцаў кажушок”, дзе небеспадстаўна сцвярджаў, што цяперашняя беларуская казка на сталае жыхарства пасялілася ў Жабінцы. Мяркуйце самі. У 2001 годзе жабінкаўскі паэт Алесь Каско выдаў зборнік чарадзейных казак “Чыстага ўсё нячыстае баіцца”, а тады як раз на паліцах кнігарняў з’явілася шыкоўнае выданне казак Расціслава. У згаданай кнізе, якая была адрасавана малодшым школьнікам, змешчана дваццаць адна казка. Некаторыя з іх, такія, напрыклад, як казкі “Вадой не разліць”, “Зайцаў кажушок”, “Зайцава помста”, казка-загадка “Лясная госця” і іншыя ўключаны ў школьныя падручнікі і хрэстаматыі, іх вывучае, імі захапляецца дзятва. Больш таго, летась казкі Расціслава Бензярука зазіхацелі перлінкамі на старонках беларускага календара “Родны край”.

Таленту Расціслава Бензярука падуладны розныя літаратурныя жанры апавяданне, нарыс, казка, гумарэска, верш… Як вынік гэтага пераліку - цяперашні зборнік вершаў і перакладаў “Вясёлка сямікалерная”, да якога я пішу невялікае слова ў дарогу.

Не сакрэт, што ніводзін крытык ці бібліёграф лепш не напіша і не скажа пра паэта, чым гэта зробяць ягоныя творы. Такім творам у зборніку для мяне стаў верш “Бацьку”:

- Ці ёсць родзічы за мяжою?
- Так, бацька. Пахаваны ў чужой
Краіне ў 45-м.

*Грэгарэ Віеру*

Сорак пяты год маёвым громам
Абвясціў шчасліва Перамогу.
Толькі ты не выбраўся дадому –
Не было каго нам стрэць з дарогі.

Без узнагародаў і парадаў
Між салдат знайшоў спачын навечна…
З сынам мы прыехалі ў Радам
Да цябе на першую сустрэчу.

На магілу надвячоркам росным
Мы паклалі свежых кветак жменьку.
- Тата, глянь: унук які дарослы,
А твой сын даўным-даўно сівенькі!..

Здавалася б, што яшчэ льга сказаць пра самага роднага

чалавека пасля хрэстаматыйнага барадулінскага “Бацьку”?! Расціслаў Бензярук не толькі здолеў сказаць, але змог знайсці тыя адзіныя словы.

Яшчэ ў свой час класік літаратуры гаварыў, што толькі тая кніжка вартая ўвагі, якая скіроўвае на добрыя думкі. Ёсць у зборніку верш “Аднакласніку”, які мае тры пяцірадкоўі, нагадаю апошняе:

Зноў будзе вечар успамінаў
І для мяне, і для цябе,
Бакалы поўныя падымем
За клас, каб выпіць за Радзіму,
А можа, нават за сябе?..

Мне тут адразу прыгадаліся мае аспіранцкія гады, калі аднойчы на вечары Івана Шамякіна ў сталічным клубе “Спадчына” (туды мы, аспіранты, часта наведваліся) падчас вострае палемікі з шаноўным пісьменнікам Анатоль Сыс чытаў свой знакаміты “Пацір”, калі паэт, жаўнер і хтось яшчэ…

З паціра выплюхнулі слёзы,
І налілі праз край віна,
І сталі дружна, шчыра, шчыльна,
Як на касьбе ці на сяўбе,
Паэт сказаў: п’ём за Айчыну!
І кожны выпіў - за сябе…
Ці патрэбны тут каментарыі?!

Альбо вось такія радкі з ранейшых Бензяруковых вершаў:

Паўвека ўжо. З табой мы не адны:
Услед ідзе малодшых пакаленне…
Дык будзем жыць па праўдзе і сумленні:
Мы ж родам, брат, з далёкае вайны!

У гэтай кнізе высвечваецца грань мастакоўскага таленту Р. Бензярука як перакладчыка. Імёны Уладзіміра Высоцкага, Юры Кавальскага, Уладзіслава Бахрэўскага, Барыса Ганкіна гавораць самі за сабе. Не здзіўлюся, калі па часе мы сустрэнемся з кнігаю выбраных перакладаў паэта.

Мне бачыцца даўно патрэбным і тое, што Расціслаў Бензя- рук пад адною вокладкаю змясціў трыпціх Францішку Багушэвічу, дыпціх Кастусю Каліноўскаму, вершы пра такія векавечных постацей нашай Бацькаўшчыны, як Паўлюк Багрым,

Максім Багдановіч, Уладзімір Калеснік, Васіль Быкаў, Міхась Рудкоўскі, прысвячэнні Генадзю Бураўкіну, Івану Арабейкі- ну, Міколу Купрэеву, Ніне Мацяш, Алесю Каско, Міколу Пра- каповічу. Гэты раздзельчык кнігі, несумненна, будзе надзвычай даспадобы настаўнікам роднай мовы і літаратуры, студэнцкай і вучнёўскай моладзі, аматарам гістарычнай плыні ў нашай літаратуры ўвогуле.

Пасля прачытання кнігі мне ўспомнілася гісторыя, якая адбылася яшчэ ў даваенныя гады і якая сёння бытуе ў Вядскім краі (Целяханшчына) і перадаецца з пакалення ў пакаленне. Стары Улас меў многа, палічыць нават цяжка, дзяцей, усіх ён любіў, але, як толькі сын ці дачка падрасталі, стараўся абысціся з імі, як птушка з птушанятамі, - дзюбкаю турць-турць і на крыло. Дык Расціслаў Бензярук, як той колішні вясковец Улас, выпраўляе ў палёт свой новы паэтычны зборнік. І адбываецца гэта, лічу сімвалічным, напрадвесні:

І цаню цішыню,
Цеплыню, дабрыню,
Іх, магчыма, удосталь не маю...
Бачыць светлыя сны
З надыходам вясны
Зычу шчыра я роднаму краю.

Шчаслівай цябе дарогі да чытача, паэце!

6 студзеня 2005 года

*Уладзімір БАРЫСЮК*

# МІЛЫ КРАЙ МАЛЕНСТВА

## Прызванне

*Акраверш*

Радзіма - дзіўны край, прыветны і гасцінны, -
Адорвала цяплом, каб рос, мужнеў хлопец.
Савінец, Лександра, і Лонкі, і Гасцінец –
Ці ж проста для меня знаёмыя мясціны
І любыя таму, што побач Стрыганец?..
Страмляюцца палі. Што будзе заўтра, потым?
Лясоў паменшала. Змяненні там і тут,
А ў памяці маёй нязменна, як фота,
Ў вясёлкавым святле маленства мілы кут.
Без Недзіных карчоў, без Выраччынай хаты
Евангельскі рай-сад, не поўны і не той.
Не лётае да нас сям'я буслоў крылатых:
З дзіцяткамі цяпер, так мовяць, перабой.
Які ж тады прагрэс? Працяг да адмірання?!
Руплівасці няўжо так не хапае нам?..
У вернасці навек, як першаму каханню,
Клянуся я зямлі: яна ў мяне адна!

## Мілы край маленства

*Вікенцію і Сямёну Мялешкам*

Ты ў Казахстан, а ён да Волгі,
Дзе снег, і спёка, і дажджы,
З'язджалі быццам ненадоўга,
А засталіся на гады.
Займелі родзічаў, знаёмых.
Уладкаваўшы там жыццё,
І ўсё даўжэй дарога к дому,
Ды не прыходзіць забыццё.
За далячынь ніхто не судзіць:
Шукаюць людзі там, дзе лепш…
Чаму ж вам сняцца хаты, студня,
Вясёлы спеў, у рэчцы лешч,
Дзявочы смех, прывабнасць лета,
Бялюткі снег, птушыны грай,
І не даюць вам за паўсвета
Забыць маленства мілы край?..

## Бацьку

> \- Ці ёсць родзічы за мяжою?
> \- Так, бацька. Пахаваны у чужой
> краіне ў 45-м.
>
> *Грыгарэ Віеру*

Сорак пяты год маёвым громам
Абвясціў шчасліва Перамогу.
Толькі ты не выбраўся дадому –
Не было каго нам стрэць з дарогі.

Без узнагародаў і парадаў
Між салдат знайшоў спачын навечна...
З сынам мы прыехалі ў Радам[1]
Да цябе на першую сустрэчу.

На магілу надвячоркам росным
Мы паклалі свежых кветак жменьку.
\- Тата, глянь: унук які дарослы,
А твой сын даўным-даўно сівенькі!..

## Ён не вярнуўся з бою

*(З Уладзіміра Высоцкага)*

Дык чаму ўсё інакш? Сёння ж так, як заўжды:
Звыклы неба блакіт нада мною,
Тыя ж лес, і паветра, і бляск ад вады...
Толькі ён не вярнуўся з бою.

Не магу зразумець, хто праўдзівей каго
Быў у спрэчках без сну і спакою...
Ды цяпер я адчуў: не стае мне яго, -
Ён учора не выйшаў з бою.

Не да месца маўчаў і не ў такт падпяваў,
Гаварыў пра сваё, дарагое.
Прачынаўся з усходам і спаць не даваў,
Але вось - не вярнуўся з бою.

Апусцела зямлянка цяпер без яго.
Азірнуўся: заўжды ж было двое!..
Для мяне — быццам ветрам задзьмула агонь.

---

[1] Радам - горад у Польшчы

Ён учора не выйшаў з бою.

Як з палону, прарвалася смела вясна.
Памыліўшыся, клікнуў яго я:
«Сябар, дай пакурыць!» А ў адказ - цішыня…
Гэта ж ён не вярнуўся з бою.

Аніколі не кінуць у горы-бядзе
Нашы паўшыя, як вартавыя…
І люструецца неба ў лясах, бы ў вадзе,
Гуртам елкі стаяць маладыя.

Мы бывалі, відаць, шчаслівей удвайне,
Калі час свой дзялілі з табою…
Гэта ўсё аднаму? І здаецца ўжо мне,
Быццам я не вярнуўся з бою.

**Маналог Змітра Юрасіка,**
**які 11.09.1942 года, калі палілі вёску Драмлёва, цудам уратаваўся, а потым жыў далёка ад радзімы**

Быў дзень святы - Галавасек,
Удалеч сплыў туман бялёсы,
Як нелюдзі ўчынілі здзек
І запалала наша вёска.

Калі настаў апошні час
(Усім палегчы тут навекі),
Дык людзі выштурхнулі нас,
Трох хлапчукоў, з зямнога пекла.

За іх, загінуўшых, жыву,
Учынкі мераю сурова,
А попел беліць галаву
Ад полымя твайго, Драмлёва.

Ніколі не забыць таго,
Як вёска гінула і людзі.
Пякельна-жудасны агонь
Яшчэ дасюль начамі будзіць.

Прачнуўся - болю не суняць,
І кліча да сябе Айчына,
Дзе ў сэрца кожнаму глядзяць

Тры вечна сумныя жанчыны[2]

**Аднакласніку**

Не выбіралі мы Радзімы,
Як і бацькоў. Мой дружа, знай.
Там колісь маці нас радзілі,
Дзе многа радасці і дзіва,
Каб палюбілі гэты край.

Быў выпускны, апошні вечар,
Гучаў для нас з табою вальс.
Мы гаварылі пра сустрэчу
Праз дзесяць, дваццаць, трыццаць з нечым.
А як сабраць дзесяты клас?..

Зноў будзе вечар успамінаў
І для мяне, і для цябе.
Бакалы поўныя падымем,
За клас каб выпіць, за Радзіму,
А можа, нават за сябе…

**Студэнцкі інтэрнат**
*Санет*

Вярнуцца б на дзесяткі год назад
У добрае, далёкае юнацтва,
У наш стары студэнцкі інтэрнат,
Дзе пазнавалі і ману, і брацтва.
Спрачаліся падчас да хрыпаты,
На веру не прамаючы нічога,
І думалі, што з будучым на “ты”,
Што нас чакае светлая дарога.

А выпалі калючкі і асцё,
Бывалі і пад прэсам, і пад прасам…
Дарослае, працоўнае жыццё
Не параўнаць з вясёлым, даўнім часам.
Шляхі туды засыпаў вечны снег,
І маладосць прыходзіць зрэдку ў сне.

---

[2] «Тры жанчыны» - галоўны помнік мемарыяла «Драмлёва»

## Першы снег

Задумаў апраўдаць сваю назову снежань
І шые кажухі, каб дрэвы ў іх адзець.
Бялюткі сыпле снег, вакол такая свежасць,
Нібыта ачышчэнне к нам ідзе.
І кожны хоча быць сягоння самым лепшым:
Не лічыць серабра, дасць месца ля агню…
І, можа быць, таму на ліст кладуцца вершы
Пра беласнежную, святую цішыню.
А снег усё ідзе. Ён сыпле, як скрозь сіта,
Фарбуе ад сцяжынкі да страхі.
…Нам каяцца за ўсё, што помнім, што забыта,
За даўнія і новыя грахі.

***

Чым больш жыву, часцей мне сніцца
Сярод забаў вясёлых смех.
Як быццам бы з майго дзяцінства,
Зноў падае бялюткі снег.
Як і ў маленстве, непаўторны:
Падобнага яму няма,
І скептыкаў на лад мажорны
Ураз настройвае зіма.
Шчэ будуць слота і адліга,
Халодны дождж і галалёд,
А час, няспынны ды імклівы,
Ідзе сягоння ў Новы год.

## Сосны

Я гляджу на высокія сосны:
Колькі зімаў страслі на вас снег!
Прыйдуць новыя, светлыя вёсны,
Ды шкада, што не стане мяне.
Можа, праўнук па вас будзе мераць
Час бяссмерця? Але ж не заўжды
Вам стаяць: ці асіліць сякера,
Ці нарэшце струхнавяць гады…
Не адолець і волатам смерці!
Потым - памяць альбо забыццё…
Хто састарыўся, мусіць памерці –
Прыйдзе новы, каб доўжыць жыццё.

**Калядная вячэра**

За вокнамі снег белы, як папера,
Нібы зіма раскручвае сувой…
Зноў на стале - калядная вячэра,
А за сталом - і радасць, і спакой,
І дзіўны пах - ці летні, ці вясенні.
Мо блытаніна пораў у жыцці,
Бо з-пад абруса вытыркае сена
І стравы пачынаюцца з куцці?
Тут, за сталом, і казка быць павінна,
Калі чакаеце ад працы летняй плён.
Вось выцягнеш даўжэзную сяніну,
І верыцца: высокі будзе лён.
У зімні вечар моляцца і вераць,
А ў небе зорак ясных хараство…
Закончыцца калядная вячэра –
Прычнемся на Ісусава Раство.

***

Туга - не кропелька бурштыну –
Нутро забрала недарма:
Бязлісты клён у змроку стыне,
Лютуе грозная зіма.

Жыцця стракатасць, як сарока,
Што прылятае к нам здавён,
Паверне часам светлым бокам,
А болей - неспакойных дзён.

Жыву з надзеяй у трывозе,
Зноў да світання не засну…
Аб чым клён шэпча на марозе?
Мо разам марым пра вясну?..

**Самотны санет**

*Светлай памяці Вольгі Верамейка*

“Вясёлка не заблудзіцца ў завею”, -
У цуд паверыўшы, я напісаў тады.
Не мог я ведаць, што праз два гады
Цябе пакліча студзеньская вея.
Хаця жыла з надзеяю і верай,
Хаця было задумак, можа, рой,

Не палічыўся ўсё-ткі лёс з табой:
Душа самотная зляцела ў вырай…
Вакол зіма дыван паслала белы,
Накінула бярозка зорны вэлюм,
Стаяла моўчкі ў роспачнай журбе,
І здаўся дзень святым, хаця быў будзень…
Чаму, о Божа, тых, каго так любіш,
Ты рана забіраеш да сябе?..

**Вячоркі**

Зімы далёкай непаўторны час.
Усё - у белым: лес, лугі, пагоркі.
Збіраюцца жанчыны на вячоркі –
На попрадкі, як гаварылі ў нас.
Заходзяць гуртам - аж у хаце цесна
Ад жартаў, смеху, сонечных вачэй,
І нараджаецца, расце, сталее песня
Пра рэчку, што з-пад каменя цячэ.
Далей - смялей. То песні, то частушкі,
А то вясёлыя расказы пра жыццё…
- А вы чаго, малеча, не спіце?
Даўно чакаюць вас падушкі!
Ці ж можна спаць, як гарманіст Даніла
“Салёныя” на ўсю “пячэ” прыпеўкі,
Жанкі гавораць ціха, незласліва,
І, як клубніцы, чырванеюць дзеўкі?..
Нарэшце за парог, у зорнасць зімняй ночы,
Але й на вуліцы не гасне ўраз гаворка…
Нам спаць пара - заплюшчваюцца вочы,
А ў сны да нас прыходзяць зноў вячоркі.

**Ручнікі**

*(З Юрыя Кавальскага)*

“Ручнікі вышываныя ў модзе”, -
Мусіць, чулі падобнае дзе?
Мода, мода зрадні пагодзе,
Што мяняецца кожны дзень:
То ў кароткім бывае, то ў доўгім,
То пад пояс, а то з гаплічком,
То платформаю ледзьве шоргае,
То пастуквае каблучком…
Не з журбой сустракаю, а весела
Разнастайныя стылі абноў,

Ды не ў сілах да моды аднесці я
Яркасць сонечных ручнікоў.
Ці зіма забялее снягамі,
Ці вясна ўсцеле кветкамі ўток,
А мне сцеле дарогу да мамы
Долі светлае ручнічок.
Вышывала матуля ўзоры
На бялюткім з ільну палатне.
На яе заглядзеліся зоры,
Запыніўшыся ў сінім акне.
Ад таго і святлее хата,
Ад таго і няма журбы,
Нашы мірныя галубы
Міру веснікі - галубы.
За зялёнаю ніткай - чырвоная,
Чудадзейная ў мамы рука…
І зямелька, нібы нарачоная,
На краёчку стаіць ручніка.

**На вяселлі**
*Песня*

Другі дзень у вёсцы
Вяселле гуляюць.
Гармонік і бубен
Спачыну не знаюць,
Не ведаюць стомы
Вясельнікаў ногі:
Абцасы, платформы
Мянтрэжаць падлогу.

Вяселле спявае,
Вяселле смяецца.
Чаму, маладая,
Табе не пяецца?
Знялі з цябе вэлюм,
Іначай глядзішся.
Ты болей не дзеўка –
Ужо маладзіца.

Раз’едуцца госці,
І бацька, і маці,
А ты застанешся
У свёкравай хаце.

Калі хто пагладзіць
Цябе па галоўцы?
Няўжо не дагодзіш
Упартай свякроўцы?..
Другі дзень у вёсцы
Вяселле гуляюць…

**Маці**

Калі з табою побач маці,
Цяпло яе пяшчотных рук,
Не дай падставы хвалявацца,
Не прычыняй сардэчных мук.
Яна ж за нас, як і ў дзяцінстве.
Перад людзьмі адказ нясе,
І не здзіўляйся, што хусцінка
Часамі быццам у расе.
Яна паплача ціха, употай,
Каб горкай не даняць слязой.
Спаўна пазнаеш гэта потым,
Калі расстанешся ты з ёй…
…Прайшлі гады, і нас таксама
Перавялі ў “разрад” бацькоў.
Як цяжка тым, чые ўжо мамы
Навек пакінулі сыноў!..

***

*Наталлі*

Спазнаць спакой у новай хаце,
Святую цягу да людзей,
Кахання міг, і шчасце маці,
І першы зычны крык дзіцяці,
Каб жыць у радасці надзей.
Пачуць, як сэрца ўстрапянецца,
Калі спрасонку на бачок
У ложачку перавярнецца,
Салодкім мроям усміхнецца
Сынок маленькі, з кулачок.
Забудуцца бясонне ночы,
Трывогі, слёзы з-пад павек
І цяжар мацярынскай ношы,
Як “дзякуй” скажа не аднойчы
Твой сын - дарослы чалавек.

**На парозе вясны**

Завіруха ў палях,
Замятаючы шлях,
Мо апошняе ладзіць гулянне...
Веру, што капяжы
Зазвіняць на мяжы,
Дзе вясна прызначае спатканне,

Дзе гуллівы ручай
Будзіць поле і гай,
Ад зары маладой сам ірдзіцца...
На парозе вясны,
Сярод лютай вайны,
Меў я шчасце калісь нарадзіцца.

І цаню цішыню,
Цеплыню, дабрыню.
Іх, магчыма, удосталь не маю...
Бачыць светлыя сны
З надыходам вясны
Зычу шчыра я роднаму краю.

# ЗЯМЛЯ І ЛЮДЗІ

## Агледзіны

Не ведаю, адкуль пачаць
Жыцця свайго агледзіны –
З дзяцінства, як ішла вайна,
А можа быць, з сярэдзіны,
Калі падрос, на ногі ўстаў,
Калі дабіўся нечага,
Была як пройдзена вярста
З тых многіх, што намечана.
Вучыўся выжываць і жыць
Каля кавадла з молатам,
Каб словам праўды даражыць,
Пазнаць: маўчанне - золата!
Няспешна крочыў па зямлі
Няпростай сцежкай, звілістай.
Дзесь мары мохам параслі,
А дзе - закаласіліся.
Штодня здаваў жыццю залік...
А колькі мне адведзена?
Ці выпадзе яшчэ калі
Рабіць жыцця агледзіны?..

## Паводка на Палессі

Мы дачакаліся вясны,
А з ёй - шумлівае паводкі.
Зноў пераселі людзі ў лодкі
У поймах Прыпяці і Цны.
Брыдзе жанчына па вадзе
У ботах тых, што сын рыбачыць.
У снах у мокрай хаце бачыць,
Што раніцай вада спадзе,
Як сонца ветла паглядзіць,
Прыносячы старой Надзеі
На шчаслівейшы дзень надзею:
- Пара ўжо градачкі садзіць!..

## Пінская Мадонна

Яна малілася ў касцёле:
Пагляд - лагода і адчай.
Яе, у светлым арэоле,
Мастак убачыў між пінчан.
Такая вабная: не можа
Вачэй ад твару адарваць!
Ён папрасіў: "Дай сілы, Божа,
З яе Мадонну напісаць!.."
Яму Гасподзь паслаў удачу.
Мастак, адольваючы страх,
Пісаў зямную - сам жа бачыў
Марыю з Дзіцем на руках.
...У тым касцёле ясным ранкам
Я, знерухомеўшы, стаяў:
"Аблічча святасці ў пінчанкі,
Бо Ромер[3] так абагаўляў!.."

## Ля цяпельца

Сустрэліся два гора-бедакі:
У радасць ім, што зноў вясна настала.
Расклалі хуценька цяпельца ля ракі
І сталі смажыць, бы ў дзяцінстве, сала.
Агонь лізнуў яго, і тлушч пацёк,
Прыемны пах галодным ноздры лашчыў.
Адзін сказаў:
- Вось гэта, брат, жыццё!
Для шчасця не хапае толькі пляшкі...
- Калі ўдвух, мы больш не бедакі,-
Дадаў другі. - Якое будзе выйсце?..
- Давай складзём, што маем, медзякі,
І разам за здароўе наша вып'ем!
Што ж, расчынілі хутка кашалі
І па кішэнях стукнулі таксама.
Сабраўшы разам тое, што далі,
Адзін падаўся напрасткі да крамы.
Вось выпілі. Згадалі маладосць,
Забылі пра нягоды і напасці,
Паверылі, што гэта й шчасце ёсць...
Хаця жабрацкае яно, напэўна, шчасце?!

---

[3] А. Ромер - жывапісец XIX стагоддзя, аўтар абраза "Найсвяцейшая Дзева".

***
Дуэлі, кажуць, больш не ў модзе,
Забыць пра іх нам часта раяць,
Як адказаць таму, хто годнасць
І чалавечнасць напірае?..
Калі няшчырасць шчэрыць зубы,
І не памёр яшчэ Малчалін,
І праўду зноў вядуць на згубу,
Калі агортвае адчайнасць,
Калі губляецца дарога,
Што з тупіка вяла спачатку, -
Тады так хочацца пад ногі
Ўсім махлярам шпурнуць пальчатку.

**Вясновыя актавы**

*I. Сакавік*
Вясёлы шпак вясну вітае,
І дружна звоняць капяжы,
Ручай з суседам паспяшаюць,
Хто першы ў рэчку забяжыць,
А верабейка аб'яўляе:
“Я буду жыць! Я буду жыць!!”
Купаецца в калюгах сонца,
Цяпла і радасці бясконца!

*II. Красавік*
Куды ні глянь - вакол раздолле.
У ліст прыбраліся лясы.
І дрэвы, быццам бы ў прыполле,
Люляюць птушак галасы.
А красавік да ночы ў полі,
Ячмень пасеяў і аўсы.
Шчыруе хлебароб і помніць,
Што дзень вясновы год накорміць.

*III. Май*
Да Дня Вялікай Перамогі
Абуджаны, прыбраны край.
Дождж у пару, не вельмі многа,
Каб добры вырас ураджай.
Пот выцер, сеў каля дарогі,
Папрацаваўшы ўдосталь, май
І думаў, далібог, пры гэтым:

“Хутчэй бы завітала лета!..”

**Чарнобыльскі дыпціх**

Буяюць
белай квеценню сады, -
Яны,
як мы, заложнікі бяды...
*Ул. Мазго.*

*1. Балада пра апошнюю ўсмешку*
Ніколі сад, здаецца, так не цвіў,
Пад восень яблыкі ажно ламалі голле
І сокам наліваліся наўдзіў –
На радасць людзям ці на гора?
Даспелы яблык свеціцца агнём,
І можна палічыць усе зярняты.
Шыбуе напрасткі малое хлапчанё,
Працягвае шчасліва ручаняты –
І яблык на зубах. Не ведае яно,
Што есць нябачную Чарнобыля атруту...
Палата. Маці. Сумнае акно.
Цяжкія, недзіцячыя пакуты...
Ды раптам болі як і не былі:
Малое цельца пакідаюць мукі...
Сын мроіць сад і яблык на зямлі,
Вялікі, наліўны, бярэ ў абедзве рукі
І смачна есць...
Зайшла ў палату Смерць,
Яшчэ імгненне - цела зледзянее...
Але пакуль на вуснах сына ўсмех,
У мацярынскім сэрцы ёсць надзея.

*2. Плач маці*
Ой, сыночак мой, мілы Яначка.
Наша сонейка і крывіначка!
Хіба цесна ў нас, хіба бедна ў нас,
Што сабраўся ты ў шлях-дарожаньку,
У далёкую, незваротную,
У сыру зямліцу, глыбокую?

Ой ты, сонейка, сонца яснае,
Птушкі раннія, вецер ласкавы,
Разбудзіце ж вы майго Яначку!
Хай убачыць ён, як тут хораша,
Што сабраліся дзед з бабуляю,
Дзядзькі з цёткамі - і ўсё слёзы льюць.

Ой ты, Божа мой, Божа праведны,
Раскажы-скажы, міласцівы, мне,
Забіраеш нашто ты бязгрэшнага,
Пазбаўляеш нас шчасця-радасці?
Ну а трэба ўзяць - забяры мяне,
А вярні жыццё майму Яначку!..

І не збудзяць сваіх немаўля,
... Калі чую, як маці галосяць
Мне здаецца: то міласці просіць
Беларуская наша зямля.

**Перасяленка**

На працы ўсе. Яна адна
Штодня ў сваім пакоі.
Сядзіць, прыціхла ля акна –
На сэрцы неспакойна.
Якую цеплыню адчуў,
Калі зайшоў у хатку!
Спытала:
- Часам ты не чуў
такую вось загадку?

“Раскаціўся гарох
На чатырыста дарог.
Не сабраць яго нікому:
Ні старому, ні малому,
Ні цару і ні царыцы,
Ні прывабнай маладзіцы...”
Што, не асіліш - трэба час?
Як бы лягчэй аздобіць?..
Загадка гэтая - пра нас,
Пра нас і пра Чарнобыль...
У свет паехалі - і вот За намі ўсе напасці...
Усмешка злёгку крывіць рот,
А слёзы вочы засцяць.

**Дзядулеў наказ**

Вясна нясе з сабой надзею.
Прыспешвае руплівы май,
І людзі зноў аруць ды сеюць
І думаюць пра ўраджай.

З наказам дзедавым я згодны,
А ён, бывала, паўтараў:
- Хто не садзіў, той спаў галодны,
А хто пасеяў - той сабраў.

**Летні спакой**

Вецер аціх. Задуменна стаяць
Елкі, асіны, бярозкі.
Моўчкі ў ваду, бы ў люстэрка, глядзяць
І папраўляюць прычоскі.

Недзе ў зацішку спіць гром малады,
Каб не парушыць спакою.
Хмаркі зачэрпнуць крынічнай вады
І ўсё жывое напояць.

* * *
Купальскія агні,
Што прашчур паліў, гарацць...
Раскідваў час камяні,
Якія трэба збіраць.
На тых векавых валунах
Збудуем свяшчэнны храм,
Каб заўтра на яве - не ў снах –
Было дзе маліцца нам
І верыць у светлыя дні,
Бо мы - беларускі народ!..
Раскіданыя камяні
Збіраем каторы год.

**Кветка папараці**
*(З Уладзіслава Бахрэўскага)*

Вітаю
Вечны рух планет!
Ізноў цвіце купалаў цвет.
На лузе тым,
На той гары,
На той бярозавай зары,
На той зямлі,
Дзе шчасце зноў,
Дзе ў травах пёры дзікуноў,
Там, дзе глушцы,

Дзе звону ніць
З усіх бакоў ляціць, ляціць.
Цвіці, цвіці,
Купалаў цвет!
Каханне –
І ніякіх бед.
У цемрадзь ночы цераз гаць
Пайду, каб цуды адшукаць.
Заскача каля кветкі змей,
Завыюць здані ўсё страшней,
Але -
Я вырву кветку ў іх!
Са шчасцем прыйдзе дзень да ўсіх…

Прылягу ў лузе, адпачну:
Мне доўга будзе не да сну.
Калі ж пральецца тонкі звон,
Прысніцца лёгкі-лёгкі сон.

**Пад вясёлкай**

Пад сямікалернай вясёлкай пастаю.
Шырока ўскіну рукі на паўнеба,
Прызнаюся яшчэ раз, што люблю
Зямлю, якая пахне хлебам,

Адкуль пайшоў у іншае жыццё,
Калі вучоба ўперамежку з працай.
Каб не адолела ніколі забыццё,
Я абяцаў ізноў сюды вяртацца,

Каб услаўляць бацькоўскую зямлю,
І шчасця большага, паверце, мне не трэба
Зноў пад вясёлкай сямікалернай стаю
І п'ю, нібы нагбом, пах аржанога хлеба.

***

*(З Барыса Ганкіна)*

Плыве Зямля міжзорнымі шляхамі.
Уздрыгне раптам,
Быццам уздыхне,
Ды так, што неба калыхнецца пад нагамі,
Зямлі трымценне передасца мне.

Я - сын яе.
Навек жыццё і мары
Звязаўшы крэўна з роднаю зямлёй,
І ўсе штуршкі,
І выбухі, і ўдары,
Боль і трывогу
Падзяляю з ёй.

**Журавы**

І нікнуць, і мокнуць палі, паплавы.
Пад небам свінцова-халодным
На поўдзень уранку ляцяць журавы
Іх крык развітальна-жалобны.

- Скажыце, хто гоніць з абжытых мясцін?
Скажыце, ці вас пакаралі?
Ці знойдзеце там прыгажосць арабін,
Якія надзелі каралі?..

- Баімся мы слоты, баімся мы зім
І мусім ляцець за паўсвету…
Бывай, родны край! Мы ляцім ад рабін
Туды, дзе згубілася лета.

І як бы ў дарозе ні цяжка было,
Вясною ізноў сустракайце:
На крыллях сваіх прынясём мы цяпло.
Чакайце!
Чакайце.
Чакайце…

**Элегія**

Позняя восень спраўляе дажынкі,
Лісцем расквіціўшы дол,
Ноч патушыла на небе жярынкі:
Цёмна, наўтульна наўкол.

Шэрым сувоем сонныя хаты
Мкнецца сутонне абвіць.
Вецер бяздомны, як пудзель кудлаты,
Будзе да раніцы выць.

Восень халодныя справіць дажынкі –
Чуецца подых зімы.
Сеюцца, быццам скрозь сіта, дажджынкі.
Зноў раздарожжа і мы…

## ДА АДНОЙ БІЯГРАФІІ

**Беларускі дудар**
*Трыпціх*

### I. Вечны абаронца

- Дудка грае - ён жывы.
*Віктар Шніп*

Дарога, лёгкай стужкаю бяжы,
Каб нас завесці да заходу сонца
Туды, дзе жыў Паэт,
Дзе заслужыў
Сабе найменне - вечны абаронца.
Мацею Бурачок, ты ад сялянскіх ніў.
Абшар палескі, цёмны і забіты,
Ты дудкай беларускай абудзіў І даказаў: край
Богам не забыты.
Мінае час,
І колькі на Парнас
Узлезла то пытлівых, то ціхуткіх.
Прайшло сто год, як ты пайшоў ад нас.
Пайшоў ад нас, але іграе дудка...

### II. Памаліся, бабулька...

Маліся ж, бабулька, да Бога,
Каб я панам ніколі не быў.
*Францішак Багушэвіч*

Ты, бабулька, малілася многа,
І дайшлі твае словы да Бога,
Бо я панам ніколі не быў:
Цяжка крочыў жыццёвай дарогай,
Не зрабіў для народа благога,
Але й славы сабе не здабыў.

Сёння ў чэргі пасталі па славу
Шмат паноў і падпанкаў, хто правіў,
Хто бяздушна абкрадваў народ,
Хто адрокся ад роднае мовы,
Праўду хто падмяніў пустаслоўем, -
І вялікі, і дробненькі зброд.

З імі мне не было па дарозе.
Калі раптам прылягу ў знямозе,

Ці прыдушаць бяда і прымус,
Я не стану прасіць больш нічога:
- Памаліся, бабулька, да Бога
За мяне і маю Беларусь!

**III. Слова роднае**

“Не пакідайце ж мовы нашай
беларускай, каб не ўмёрлі!..”
*Францішак Багушэвіч*

Ці не памерла наша памяць?
Калі жыве, чаму ж тады
Слоў чужародных злая замець
Зноў аддаляе на гады
Нас ад таго, што ёсць Айчына,
Дзе мілы кут, адкуль твой род,
Дзе нам забыцца немагчыма
Пра беларусаў - той народ,
Што ў працы не прывык лайдачыць
І край умела бараніў…
Тут разумееш, што ты значыш,
Якія маеш карані…
Між двух народаў ці не зблудзіш –
Ні расіянін, ні паляк?
Вось слова роднае забудзеш,
Як будзеш жыць?
Скажы мне, як?..

**Каліноўскі**

I
Збіраў сваё войска
Кастусь Каліноўскі.
Ідзі на змаганне, каб скінуць прымус.
“Што любіш?” - спытаюць.
Адказ атрымаюць,
Упэўнены, горды:
“Люблю Беларусь!”

“Што ж, вельмі прыемна.
Тады - узаемна!”
Пароль, быццам рэха, пабег па зямлі.
“Хто ў шапцы абветшай?
Адкуль ён?” - “З тутэйшых…”
З маёнткаў і сёл касінеры ішлі.

Па волю і права
“Мужыцкая праўда”
Паклікала іх на бязлітасны бой:
Шукаць перамогу
І к славе дарогу
На памяць нашчадкам –
Нам, дружа, з табой.

II
Хадою цвёрдай, смелаю
ўзышоў на эшафот,
І словы ўзляцелі ў міг,
што кінуты ў народ.
Звярнуўся ён з-пад віселькі
папросту: “Дзецюкі!
Хоць сёння і не выспела,
ды плакаць не з рукі.
Калі “жніва” сур’ёзнага
надыдзе новы час,
Устаньце сілай грознаю -
і шчасце стрэне вас!..
Пачуўшы, людзі марылі
дажыць да той пары.
... Над Вільняй весняй жаўранкі
заплакалі ўгары.

**Думкі ў Крошыне**

Як выпала для крошынцаў нядоля,
Калі ад стогнаў родны край ахрып,
Каваў, нібы надзею, жырандоля)
І вершы гартаваў свае Багрым.

Пачварам светлы промень быў нялюбы,
І думалі, што знішчылі, калі
Багрымавы радкі адправілі на згубу,
Калі паэта ў рэкруты здалі,

Каб не спяваў аб долі і нядолі,
Каб болей люду не казаў: “Зайграй...”
Але ў салдатчыне, у далечы-няволі,
Ён часта сніў свой шматпакутны край.

...Мы зноў збіраемся ў дарогу,

І думкі ў кожнага найперш:
“Жыццё нам захавала, дзякуй Богу,
Хоць гэты, хоць адзін Багрымаў верш!”

**На Чорнай Рэчцы**

Жыццё зямное: нараджэнне - смерць,
І толькі геніям наканавана вечнасць…
Мы едзем на экскурсію: цяпер
Пабудзем першы раз на Чорнай Рэчцы.

Для роздуму хвіліна, для тугі,
Хаця прырода цешыцца вясною…
Нам бачацца бялюткія снягі,
Пакропленыя пушкінскай крывёю.

І думае, напэўна, кожны з нас:
“Чаму ў жыцці так многа несуладдзя?
Ліцэйскі сябар секундант Данзас
Чаму дуэлі гэтай не разладзіў?..”

Гады прабеглі, і вякі прайшлі,
Наканаваўшы несмяротнасць песням.
…Пакуль жывуць Паэты на Зямлі,
У іх бяздушна цэляцца дантэсы.

**У Ялту, да Багдановіча**

Як далёка прытулак знайшоў,
Ды і тут Беларусь, мусіць, сніцца?
Я прыйшоў, каб табе пакланіцца,
Са спазненнем на споведзь прыйшоў.

Я прынёс прывітанне здалёк –
Ад зямлі, тваім вершам апетай,
Ад палёў, у якіх кожным летам
Зацвітае ў жытах васілёк.

Я стаю і маўчу. Цішыня.
Што ж прароцтва, Паэт, не збываецца:
“Беларусь, твой народ дачакаецца
Залацістага, яснага дня?”

## Слова

*Памяці Уладзіміра Калесніка*

Было гадзіны дзве ці тры,
Калі ў дрымоце соннай мроіў,
Сказаў мне голас унутры:
“Што ж, выбірай для бітвы зброю,
Калі змагаешся са злом,
Каб выкінуць яго на злом!”

Акрыўся б рыцарскім плашчом,
Калі б валодаў адмыслова
Я шпагай, шабляй ці мячом.
“А ты вазьмі за зброю слова! –
Мне той жа голас напрарочыў. –
Шчэ людзі спяць, адкрый ім вочы!”

Узяў я слова і панёс
Народу, і каб не ўмёрла праўда.
Нялёгкі мне дастаўся лёс,
Ды адступаць не маю права.
Гартую слова, быццам сталь,
А зло смяецца, правіць баль.

## Памяці Васіля Быкава

Плакала Белая Русь, прычытала,
Калі яго цела ў зямельку хавалі:
“Якая ж я маці, якая Айчына,
Як не ўратавала найлепшага сына?!
Таго, што заўсёды жыў Беларуссю,
Хаця і далёка знаходзіцца мусіў,
Але не пакрыўдзіўся, дзякаваць Богу,
Дадому вярнуўся з далёкай дарогі,
Каб вецер радзімы пакуты аблегчыў,
Навекі ў зямлю каб бацькоўскую легчы…
Якая ж я маці, якая Айчына,
Што не зберагла свайго лепшага сына?!”
Плакала Беларусь.

## Тэма 37-га года

Калі ты сумленне, Пясняр, беражэш,
Табе не забыць гэтай тэмы:
“Паэт” і “этап” былі значна бліжэй,

Чым словы “паэт” і “паэма”.

**Ляцяць буслы**

*Генадзю Бураўкіну*

Зноў нада мной ляцяць буслы:
Вядзе важак у вырай.
Ляцяць буслы.
Яны - паслы
Ад Беларусі шчырай.

Раскажуць што ў той стране
Пра нас
І пра мясціны,
Што прынясуць нам па вясне
З далёкае краіны?

Шум крылаў ловіць чуйны слых.
Натужна і без форсу
Ляцяць буслы,
Нібы паслы,
У светлы край, заморскі.

**Да назвы вёскі Хмелева**

*Івану Арабейку*

У карчме Марціна Цеслі[4]
Дым густы, з сінечаю,
Не знайсці пустога месца:
П’юць, гуляюць з вечара.

Хоць няма ў жывых Марціна,
Але справы гожыя:
Удава-карчмарка чынна
Між сталоў паходжвае.

— Што за стан, якія рукі!
Так да ласкі й просяцца...
Абдымі - і здымеш мукі,
Прыгажуня Зосечка!

А другі:
- Чаму ж ты, Зося,
Гэтак заірдзелася?

---

[4] Хмелеўскі карчмар пачатку XVII стагоддзя

Зося ў такт:
- Каб лепш пілося
Ды яшчэ й хацелася!..

Трэці:
- Эх, вярнуць бы лета,
Як была ты дзеўкаю!
- Не хваліся. Я на гэта
Адкажу прыпеўкаю:
Коля коле,
Паша паліць,
Я ля грубкі грэлася.
Аніколі Не кахалі
Гэтак, як хацелася б!..

Заспявала - і кашмары
Адначас зрабіліся,
За прывабную карчмарку
Дзецюкі пабіліся.

Грэх пасля ў душы насілі,
Колькі Богам велена...
Звеку ў вёсцы хмель любілі
І назвалі Хмелева.

**Паэтаў Востраў**

Ёсць Востраў у мяне...
*Міхась Рудкоўскі*

Пачнём расказваць, быццам казку, проста:
Жыў-быў Паэт і ў спадчыну меў Востраў.
А Востраў той, і блізкі, і адзіны,
Быў для яго часцінкаю Радзімы.
Ён адчуваў заўсёды повязь востра
З зямлёю, дзе ёсць вёска з назвай Востраў:
Была яна і праўдаю, і верай
І клалася радкамі на паперу...
Калі ж улетку песняра не стала,
Бацькоўская зямля засумавала,
Як ён па ёй. Здалася цяжкай ростань,
І ён паплыў...
паплыў дамоў,
на Востраў

## Сон

*Міколу Купрэеву*

Прыснілася, нібы з дарогі
Я прыблукаў у родны край,
Слабы, знявечаны, знямоглы, -
Не радаваў зялёны май.

Апёрся на крывую кульбу,
Як акружылі землякі.
Спыталіся ў мяне: “Адкуль ты
Прыйшоў да нас і хто такі?”

Яны, дальбог, не пазнавалі,
Хоць я прайшоўся па двары –
Там, дзе маленства выспявала
Сярод шумлівай дзетвары.

Хацеў сказаць: вунь дом і груша,
А глянуў - кожны маладзей
Быў за мяне. Я моўчкі рушыў
Упрочкі ад сваіх людзей.

Яны прайшліся недалёка.
“Бывай!” - сказалі наўздагон.
Я зноў, як вецер, адзінокі.
...А можа, гэта быў не сон?

## Суровая ралля

Час быў роспачны, і голас
Набрыняў радкамі:
- ЛЁС МОЙ,
ЛЁС МОЙ - ЦЯЖКІ КОЛАС,
ЧАСАМ - ЦЯЖКІ КАМЕНЬ...
Ды словы ласкі і любві
Прыйшлі з-за небакраю:
- ШЧАСЛІВАЙ ДОЛЮ НАЗАВІ...
–А я і называю.
Хаця СУРОВАЯ РАЛЛЯ,
Кажу, адкінуўшы турботы:
“НЕ АДПУСКАЙ МЯНЕ, РАБОТА, -
ТВАЙГО ПАЛОНУ ПРАГНУ Я...”
ЖНІВА ПАЭМА і надзей
Ды ПРОСТРАНІ КАХАННЯ.

Мне добра жыць сярод людзей
Увечары і ўранні.
Спяваю шчыра ў родным краі
Пра шчасце і бяду.
ПАКУТЫ ЗНАЮ.
БОЯЗНІ НЕ ЗНАЮ.
ІДУ...

**Без снегу, без марозу...**

*Алесю Каско*

Без снегу, без марозу зноў зіма,
Усё змянілася - не так, як у дзяцінстве:
Ў прыродзе раўнавагі больш няма,
Як і ў жыцці, ні згоды, ні адзінства.
Чакаю, калі новая вясна
Абудзіць край, сады забелапеніць...
Пакуль зіма, варожасць, як вайна,
Знішчае праўду, ставіць на калені.

Ніхто не стане сёння варажыць,
Бо прышласць адгадаць нам немагчыма...
Дык навучы, як да вясны дажыць
Сумленным людзям, любая Айчына!

**Да адной біяграфіі**

Які Пракоп быў у пачатку роду?
Мудрэц вялікі? Вершы мо складаў?..
Пісьменнасці, на жаль, ён не спазнаў,
За плугам ходзячы. Ды часта марыў продак,
Што вырасце паэт. З такой нагоды
Імя сваё для прозвішча аддаў.

І падрастаў у вёсцы Пугачова
Той, на каго ўскладалі шмат надзей,
Кім так марыў ганарыцца продак-дзед,
Хто роднае любіў з маленства слова.
Імя яго - Мікола Пракаповіч,
Між рыфмаў плавае, бы рыбіна ў вадзе.

Ён у паэзіі - даўно прызнаны вершнік.
Хоць скардзіцца, што часу не стае,
Радочкі паэтычныя куе,
Бы неад’емнае. На плане, самым першым,

Былі і застаюцца ў яго вершы –
Да іх вяртаецца, як на кругі свае.

**Правінцыйныя паэты**

Пра спякоту на зыходзе лета
Кожны з іх стварыў даўжэзны верш.
Потым правінцыйныя паэты
Вырашалі, хто з іх піша лепш.

Надрукуюць у газеце вершы.
Ганарар прапіўшы да рубля,
Будуць зноў спрачацца, хто з іх першы
І на кім трымаецца зямля.

**Дабрыня**

Кім ні быў бы ты, чалавеча,
І якая твая вышыня,
Ведай: толькі ўратуе і злечыць
Нас адзінае - Дабрыня.
Ад няпраўды, нягодаў, зазнайства,
Калі побач шыпіць гадаўё…

Колькі юных Мікола Чарняўскі
У паэзію смела завёў.
Памагаў маладзейшым паверыць
У шчаслівы, бы раніца, міг.
Адчыняў выдавецкія дзверы,
Каб з'яўляліся кнігі ў другіх.

Шэсцьдзесят. Не паверу ніколі,
Хоць для дзетак даўно аксакал…
За цябе, мілы сябар Мікола,
Падымаю сягоння бакал!

**Птушыны рытуал**

*Ул. Барысюку*

Вяртаюцца дзяцінства адгалоскі,
Калі зноў бачу рытуал птушыны:
У гурт буслы збіраюцца за вёскай,
Яшчэ раз аглядаючы мясціны,
Дзе лета правялі. Яны ў трывозе
Рахуюць штосьці, бо ніхто не знае,

Якія стрэнуцца ім цяжкасці ў дарозе,
Жыццё якое ў тым заморскім раі.
Падыме ўраз бусліных крылляў пругкасць,
Каб не забыць пра мілая Палессе,
Апошні рытуал - кругі над лугам –
Праробяць у бяздонным паднябессі,-
І ў шлях-дарогу. Іх адлёт - падзея…
Чаму, скажыце, пры такой нагодзе
Я ўспамінаю зноў сяброў надзейных,
А паміж імі і цябе, Валодзя?..

**Лейтэнант**

У Брэст служыць прыбыў здалёк
Бязвусы лейтэнант.
Не ведаў: з-за ракі ў бінокль
Глядзела ўжо вайна.
Калі свінец расплавіў дзень
І змоўкнуў аўтамат,
У рукапашны бой людзей
Павёў той лейтэнант.
Айчына нахілілася: “Хачу
Я раны пазагойваць Махначу…”

І выжыў ён, хаця прайшоў
Скрозь пекла і агні,
Каб расказаць пра тых сяброў,
Хто крэпасць бараніў,
Чыя згарэла маладосць,
Каб знік фашысцкі зброд…
У лейтэнанта кнігі ёсць
Пра сорак першы год.
…Аповесці патрэбны чытачам,
Што засталіся ад Алеся Махнача.

**Маладзёжнае кафэ ў Брэсце**
*(З Рамана Левіна)*

Маладзёжных кафэ
Інтэр’еры мадэрныя.
Ад дзяўчынак пад фей
Да бакалаў з мадэраю.
Вочы гэтых дзяўчат - як вясною разлівы,
Іх вясёлыя хлопцы - гаваркія на дзіва.

А джазісты, джазісты –
Да шуму ахвочыя,
І не вальсу, а твісту
Сёння вучацца хлопчыкі…

Я ж прыйшоў к вам адтуль, дзе паходныя трубы
Разрывалі рыданнем дзявочыя губы.
Я запомніў, як трупы ад труб крэматорных
Адплывалі ў ніщто і траплялі ў гісторыю.
Выбачайце, калі гэта ўсё не да месца
У кафэ маладзёжным аціхлага Брэста…

…Быў той чэрвеньскі ранак па-летняму пенкны,
Пад агонь з двух бакоў наша трапіла «эмка».
Расстралялі ва ўпор. Было страшна, бы ў пекле.
Ад нямецкіх салдат крывёй пахла, гарэлкай.

А на тым скрыжаванні - за квартал, трохі болей,
Я вучыўся калісьці ў пятнаццатай школе.
Дзеці ў класе сядзелі звычайна папарна.
За адною мы за Генкам мясіліся партай.
Аказаліся ў сябра нячыстыя гены,
І загінуў наш Генка за дротам у гета.

Выбачайце,
Калі я сказаў не да месца
У кафэ маладзёжным у горадзе Брэсце.
Мае нервы і час
У напрузе, як вершы,
Не сутулю плячый між вясёлых людзей,
Хоць на гэтай зямлі
Я заўжды ў сорак першым,-
Сорак першы,
Трагічны,
Набат гудзе.

## Змест